# ДУБРОЎСКІ
# НАСТРОЙ

№ 120

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ЧЭРНІНСКАЯ ВОЛАСЬЦЬ ПАРЫЦКІ ПАВЕТ


## ЗАДУХА ДА ЗАТЛУНА

Лета пачалося добра: праходзілі дожджыкі, грэлася зямелька, усё квітнела.

З школы пайшлі ў вольны сьвет выпускнікі, мо 8 чалавек. (На выпускную цырымонію не прыйшоў ніводзін настаўнік-ветэран!)

Заклапочаныя непрыстойнасьцямі ў Інтарнэце Лукашэнка і ягоны экзарх Філарэт выдалі нейкі хітры дэкрэт пра нагляд і назірк за сусьветным сецівам. Баявыя хлопцы! Пачысьцілі Чарнобыль, цяпер за http//www ўзяліся.

Бог у помач вам, паўтара праваслаўных!

Таксама захадзілі чуткі пра «выбары» прэзідэнта. «Выбары» мы бачым усё жыццё: Бог прывёў да Адама Еву і кажа: «Адам, выбірай сабе жонку». Чуткі набывалі яву калі пачалося абвальнае падвышэнне пеньсій і цэн.

Пасьля чутак і перачутак, нарэшце пачалі варушыцца з новай хвермай пад носам у сяла.

Таксама ўпарта цыркулявалі чуткі пра канец Мікалая Кірэевіча на пасадзе дырэктара Дубровы і Кадаша.

Але скончыўся чэрвень і пачаўся сьпякотны ліпень з 30градуснай сьпёкай і задухай.

## НОВЫ САЮЗ!

Пагадненне пра мытны саюз падпісаў наш дыктатар з імператарам Расіі і дыктатарам Казахстану. Наш не хацеў падпісваць падсунутую залатаардынцам паперчыну, але, урэшце, скарыўся, папоўз, падпісаў, працадзіўшы скрозь зубы, маўляў, нам ён нявыгадны, але падпішам. Поўзаць ён навучыўся, памятаеце ягонае, «я на каленях у Маскву папаўзу», і прадаваць нашыя нацыянальныя інтарэсы таксама. От і цяпер дзеіў па прынцыпе «за кампанію і жыд павесіўся».

Няблага мець нейкі хаўрус, калі калі ў цябе моцная эканоміка, моцнае грамадства. Але ў эканамічных справах дужы і кемлівы АМАП не паможа.

Што з таго выйдзе- пабачым. Але, здэцца, нічога лепшага ў наш бок не прыстане, бо «ён нам не выгадны». Пад суд за такія подпісы трэ аддаваць!

Адразу ж пасьля гэтага падпісання Расея ўчыніла чарговую газавую вайну супраць нашай Радзімы. От і хаўрусьнік! Давялося «запускальшчыку заводаў» браць лахі пад пахі, імчаць да супародніка ў Азербайджан і канькаць крэдыт, каб заткнуць ненажэрную пашчу «Газпраму». А хто аддавацьме доўг?

## ТАНКЕРАМ ПА РАСЕІ.

Толькі дурням, што пазіраюць прапагандысцкае расейскае тэлебачанне і глыкаюць іхнюю рэкламу пра «Расею-шчодрую душу» можа здацца, што Расея мае нейкую там душу. Як ні прасіў, як ні маліў наш дыктатар тамтэйшага імператара даць Беларусі трохі сотак у Сіберы для здабычы трохі нафты- не далі! Хоць Сібер шчодра паліта беларускаю крывёю і за царскімі і за савецка-камуністычнымі часамі. І толькі просты хлопец з далёкай Венесуэлы, Вуга Чавес, сапраўдны крэол-баліварыянін!- даў нам і соткі і нафту і танкер. Уся краіна з затоеным дыханнем сачыла за рухам жыцця-, нафтаноснага танкера.

Наш дыктатар яўна закруціўся, заблытаўся ў жыцці і кіраванні. Не мае ён ані дзяржаўнае мэты, ані высокай ідэі. Адны аднамомантныя жаданні: выжыць сёння, пратрымаць уладу да заўтра. Так закляўся ў вечнай любові да Расеі, што на астатні сьвет, не кажучы ўжо пра ўласны народ, ні любові ані кахання няма. Несур”ёзны ён чалавек, старшыня калгасу. От і даводзіцца цягаць танкерамі нафту з-за акіяну. Казала ж раней БНФ, што так можа быць. І адбылося!

Багата беларусаў асьцерагаюцца усходняга суседа, бо ведаюць ейны хцівы характар хіжака.

## КАНДЫЦЫЯНЕР У МАНАПОЛЬЦЫ.

З надыходам прадказанай шчэ НАСА-амерыканскім агенцтвам- незвычайнай сьпёкі пацеплела і ў манапольцы. Нягледзячы на расчыненыя вокны і дзьверы тэмпература ўнутры не была ніжай за 30 градусаў. Не толькі псаваліся прадукты, але і ў наведнікаў праз некалькі хвілін па сьпіне цурчэў пот. Не памагаў нават вентылятар. Не памагаў і «гапонаўскі» прафсаюз, які па ідэі, мусіў бы дбаць пра належныя ўмовы працы працоўных жанчын. А самі прадаўшчыцы не адважваліся патрабаваць камфортных умоў працы ад сваіх наймальнікаў: рабская прывычка боязі нейкіх рэпрэсій. Усё гэта абрыдла старому змагару і бэнээфаўцу Мікалаю Буслу. З градусьнікам у руках ён памераў тэмпературу на дварэ і ў памяшканні манапольці і сьпярша зьвярнуўся вусна да дырэктаркі сьветлагорскай райспажыўкаапэрацыі, псеўдадэпутаткі аблсавета сп. Лапцевай, потым да яе ж з пісьмовым зваротам, а праз некаторы час чыркануў у гапонаўскую Федэрацыю Прафсаюзаў Беларусі і пад лістом сабраў подпісы мясцовай грамады. Сп. Лапцева пасьпела-такі ўсталяваць у манапольцы кандыцыянер да таго, як праваняла каўбаса і рыба і да прыезду абласнога іньсьпектара з прафсаюза.

Усе былі задаволеныя. А з менскай сядзібы прафсаюза сп. Мікола атрымаў адказ і падзяку за клопат у паляпшэнні ўмоў працы.

Панове! Калі вы не будзеце тузаць гапонаўцаў з прафсаюза, калі не будзеце прыставаць да ўлады, то нічога не будзе: пад мёртвы камень вада не бяжыць.

Справядлівасьць патрабуе абароны і падтрымкі.

Адно засмуціла сп. Міколу: лісты, што ён атрымаў ад прафсаюзаў былі на каланіяльнай расейскай мове, а на канверце і на лісьце было напісана: **Буселу**. От такая цяперака граматнасьць!

Прадаўшчыцам можна пазайздросьціць. А вось пра мужыкоў-механізатараў ніхто не падбаў: не дзеці ж. Яны гаравалі ў самую задуху на палетках, зьбіраючы лукашэнкаўскія тоны і цэнцары, вазілі іх, аралі ў саменечкі паўдзён поле. Не, ім не пазайздросьціш. Асабліва тым, у каго ў кабіне няма кандыцыянера. Канешне, можна было шэраг работ перанесьці на менш сьпякотны час, ды хто пра гэта падумаў? Дык дарослыя людзі паказалі сябе цалкам бездапаможнымі. Усе паралізаваныя страхам перад хамствам і бескультур"ем. Гідка.

## ЯГАДЫ І БРАКАНЬЕРЫ

Спрыяльная вясна і гарачае лета далі лесу і людзям добры ўраджай ягад. Хто меў хібет і ахвоту- маглі няблага зарабіць, бяручы і прадаючы чарніцы. Але гэтую расьліну напаткала бяда: багата хто з ягодніц грэблі ягады адмысловым грабянцом, ды так расчасалі чарнішнік, што кусты за малым богам не ператварыліся ў голыя бізуны. Дзіва што, скрабучы так ягоднік за пару гадзін можна было назьдзіраць вядро ягад. Але пасьля такога скрабення налета наўрад ці будзе добры ўраджай дзікарослых.

І хоць усе ведаюць, што так браць ягады нельга, што экалогія карае за гэта, але калі німа культуры, то хто ж каму загадае?

Другая бяда- забруджанне лесу побытавым сьмеццем.

Мала таго, што вязуць хатні бруд коньмі і скідаюць абы-дзе, дык і цягаюць сьмецце машынамі. Месцамі ў лес гідка заходзіць. А яшчэ раскідаюць пластыкавыя пляшкі з-пад напояў. Калі ўлада не схамянецца, не пачне дбаць пра навакольнае асяроддзе, не зьвернецца да народу і раз і два і тры, не падключыць да гэтага школу- то праз небагата часу наша Радзіма, Беларусь, ператворыцца ў сьмярдзючы сьметнік.

Улетку дзіка гарэла Расія.

Усе замежныя назіральнікі пагадзіліся, што вінавата не гарачыня і сонца, а вінаватая ўлада і бескультурнае насельніцтва. Барані нас, Божа, ад такога.

---

**КАЛІ ВАМ АСТЫЛА** ДА НАДАЕЛА КАЗЁННАЕ РАДЫЁ І ТЭЛЕВІЗАР- ПАСПРАБУЙЦЕ СЬВЯЖЭЙШАЕ: РАДЫЁ «СВАБОДА» -41 і 49 м ад 6г да 8г раніцы і ад 18г да 24г увечары і «БЕЛСАТ». На «БЕЛСАЦЕ» ЁСЬЦЬ НЕБЛАГІЯ ПРАГРАМЫ. ПРАЎДА, МОВА Ў ІХ ТРОХІ ШАПЯЛЯВАЯ. АЛЕ ДАРМА

## ПАН ШРУБ-
## НАШ НОВЫ МАЯК

Як на скрут галавы, 30 жніўня пёрся картэж з дыктатарам унутры і з тэлебачаннем на прычэпе на паўдзён ад Менску. Сустрэчныя і спадарожныя машыны спужана туліліся на ўзбочыну бальшаку, бо паперадзе віхурай імчала міліцыя і нешта - разабраць было нельга - грозна зьвягала ў свае рупары на каланіяльнай расейскай мове. Гэта было чарговае падарожжа правадыра і карміцеля па сваёй імперыі.

Імчаў ён, быццам за ім гналіся дваццаць Пуцінаў з вострымі нажамі і сто Мядзьведзевых з сакерамі, ў адбеленае ім ад чарнобылю Палессе да аграпрадпрымальніка Шруба. Тэлебачанне старанна паказувала замілаваную сустрэчу двух багатыроў, былых старшынь калгасу, што здолелі збудаваць сабе трохі сьветлай будучыні, (адпіхнуўшы ад яе астатні народ). Пан Шруб здолеў падабраць пад сябе скепкі былых калгасаў і стварыў - не без спрыяння зьверху- агралатыфундыю з сотняй найманых парабкаў і з рэнтабельнай прадукцыяй.

Разам з дыктатарам мы па скрынцы бачылі ўсё самае найлепшае, што мае наш новы маяк пан Шруб. Уражаны ўбачаным дыктатар не хаваў свайго задаваьнення і тут жа прапанаваў пану Шрубу стаць на чале суперкалгаснай арганізацыі, ці то картэлю, ці то карпарацыі. Справядліва бачачы пагрозу новага раскулачання пан Шруб ветліва адмовіўся.

Радуючыся за працоўны подзьвіг пана Шруба не-не, ды і падумаеш: чаму гэта пашанцавала толькі яму? Няўжо з тых ста парабкаў, што гаруюць на дабрабыт пана Шруба ніводзін не жадае стаць самастойным гаспадаром, «прыдбаць зямлі, займець свой кут, каб з панскіх выпутацца пут»? Чаму нашыя законы спрыяюць толькі начальнікам, а просты люд ходзіць у пасынках закону і парабках шрубаў? Чаму ж няхоча дзяржава разумна і з толкам адрадзіць масавую індывідуальную сельскую вытворчасьць, а толькі цьвенькае пра аграмястэчкі з сьмярдзючымі, бруднымі кароўнікамі-сьвіннюшнікамі з цяжкай і бруднай працай жанчын?

На пана Шруба не трэ нічога кепскага казаць: пакуль што ійе тое, што ійе. Але ійе так крыва, так нехупава, што і панашрубскі шлях падаецца надта падазроным: ці не каньюнктурная гэта зьява?

Ну, калхозам можна мець сотні парабкаў. Гэтых ім сам крывавы Сталін прыпісаў.

Але нельга дазваляць узурпаваць столькі сельскіх работнікаў прыватным асобам. Дзяржава павінна даць шанец многім, а не ператвараць вяскоўцаў у аграрных зомбі, што слугуюць жменьцы шчасьлівенькіх з касты экс-наменклатуры.

---

## БАБА НА ВОЗЕ

Прыехала неяк у Дуброву «на кірмаш» народная гандлярка Ірына, як кажуць тутака «Р», бо яна тутэйшая.

Расклала цётка свае тавары, пакінула дачку прадаваць іх, а сама некуды паехала. А ў Дуброву ўжо імчала бяда: нейкая кабеціна з Шацілак, што дбае пра народны гандаль і гандляроў. Убачыўшы, што тавары сп. Ірыны знаходзяцца на вольным паветры, баба пачала прыставаць да ірынай дачкі што, ды як, ды чаму. І так прыставала, так прыставала...

Баба, пэўне, меркавала, што яна - важнае зьвяно ў камерцыі. Мо па нейкіх правілах і павінен быць брызент, але ці ж гэта падстава для прыдзірак. Твая справа, баба, не круціцца ля вашывых блых, а маліць у царкве, пайсьці да касьцёлу, напрамілы бог прасіць Бога, каб лепей і чашчэй дрыкаваліся грошы, каб шамацелі ў кішэнях і кашальках працоўных. Тады працоўныя стануць у чаргу да народных гандляроў, купяць тавары і пасунецца ўвесь марксісцкі канвеер Г-Т-Г: грошы-тавар-грошы. От тады наша дзяржава запузацее на шчасьце і дабрабыт для ўсіх. Кантралёраў і паганятых у нас багата. Адна чортавая ідэалагічная вертыкаль чаго вартая! Плацежаздатных пакупнікоў малавата, ёмістасьць рынку недастатковая. Прыдзірлівымі бабамі тут не паможаш.

Выдатны быў паэт Кандрат Крапіва. Выдатна вершы пісаў. І пра такую бабу верш склаў. Хай бы лепей такіх баб не было і такіх вершаў.

Прыязджай з таварам, Ірына!.

А ты, баба, марш у запечча.

## КАШТОЎНЫ РЭКРУТ.

Аднаго рэкрута адправіў Кадашоўскі сельсавет улетку ў Чырвоную Беларускую Армію. Не так важна, хто гэты небарака. Важней тое, што німа мужчын у вёсцы, а тыя, што ійе ўцякаюць у горад. Можа дайсьці да таго, што ў партызаны некаму будзе пайсьці, калі, крый, Божа, на нас нападуць нямецкія туркі ці французкія арабы. Ну, дык ці ж выпадае пасьля гэтага зьвягаць пра «праграму адраджэння сяла»? Гэта можна сказаць, праграма выраджэння сяла. І чым далей, тым горай і горай. У Беларусі неспрыяльныя ўмовы для размнажэння людзей. Колькасьць насельніцтва менее і менее,. За гады лукашэнкаўскага кіравання нас паменела мо на паўмільёна чалавек. Не хоча люд жыць пры такім ахлакратычным рэжыме. Згніў рэжым на карані.

## ТРОШКІ ПРЫГОНУ

Жаліліся калгасныя даяркі, што дырэктар кулацкае гаспадаркі Дуброва-Агра Мікалай Кірэеў хацеў быў змусіць іх даіць тройчы кароў у сьвяты для рэжыму дзень фальшывай незалежнасьці 3 ліпеня. Тройчы даіць- гэта і жанчыны і каровы на казарменым стойле, не ведай угавання круглыя суткі. То разумныя жанкі адмовіліся. «Пакладзі нас лепей жывымі ў дамавіну», сказалі яны пану-дабрадзею.

Кірэевіч! У такі ўрачысты дзень -ды і іншыя дні- трэба выдаваць загад даяркам каб тройчы тры разы давалі сваім мужыкам, а не пра траістае даенне грамадскага статку.

Пры забойцах-камуністах паэтаў змушалі пісаць вершыкі кшталту «Я-калгасьніца маладая, жыву весела, ані дбаю.» Але застаўся «бізун з нагайкай». От гэта і называе дыктатар «стабільнасьцю», «устойлівасьцю» па-нашаму. Стабільнасьць-устойлівасьць прыгону і глуму.

## ПАТУХЛІ ЛІХТАРЫ.

Паколькі Дуброва абвешчана аграсьметнікам, даруйце, аграмястэчкам, то ёй належыць мець трохі начных ліхтароў. І яны ёсьць і ззялі начамі, адганяючы ад сяла нечысь. Але зараз чамусьцімо з-за недахопу грошай- іх патушылі і гэта спарадзіла скаргі дуброўцаў на нязвычную цемру і надыход ночы. Багата хто ад начы адвык, таму і жаляцца.

Такім можна параіць: цярпліва чакайце дня. А ліхтары запаляць, як грошы дасьць ваш карміцель і паіцель.

## ЮБІЛЕЙ

80 дзень нараджэння справіла **КАЧУРА НІНА РЫГОРАЎНА**, пеньсіянерка-настаўніца, што доўга прапрацавала ў тутэйшай школе і вучыла дзяцей беларускай грамаце.

Былі ў ейным жыцці радасьці і нягоды, сьвяты і будні. Зараз жанчына цешыцца ўнукамі ды як можа памагае ім.

Крыўдна, што на свайго ветэрана не ўспомніла ані школа, ані гапонаўскі прафсаюз. Нецікавыя ветэраны і аддзелу адукацыі. Нікому ветэран нецікавы.

Сорамна за такую бескультурную грамаду.

«ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ» віньшуе спадарыню Ніну Рыгораўну з юбілеем і жадае ёй здароўя і любові сына, дачкі і ўнукаў.

---

Аляксеенка Васіль і Тамара аддалі замуж сваю дачку Валянціну, студэнтку.
Віншуем з шчасьлівай нагодай усю гэтую сям”ю.

---

УСемянчука Уладзіміра і Ноны радасьць: дачка Кацярына нарадзіла прыгожую ўнучку.
Зараз у іх радасныя клопаты.
Хай жыве дзіцятка дужанькае, краснае і шчаснае.

---

## ЗЛАЧЫНСТВА.

19 траўня, акурат на дзень нараджэння Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна, былы піянер, дубровец Г. А. многімі ўдарамі нажа зарэзаў сваю сужыцельку Лену. Падзея амаль нікога не ўзрушыла.
Жыла гэтая пара несалодкім і незайздросным існаваннем.
Амаль наканаваны канец.
От так жывуць людзі, выкінутыя з нормы жыцця.
Хай Бог вынясе ім свой прысуд.

---

Пайшоў ад нас
**Русіновіч Пятро Іванаў.**
Мужчына ў росквіце жыцця, быў ён трактарыстам, а пасьля дыскваліфікаваўся і па страце здароўя меў пеньсію.
Хай Гаспод прылашчыць яго ў сваім валадарстве.

---

Друкарня імя І. Масьціцкага.
Наклад 100 чэсных асобнікаў.